**Учора ў Маскве адбылася пятая (?!) за 2021 год сустрэча Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі.**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 69 (4629)

10 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.






# Народная Воля

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# Молчать! Бояться!

Задам неожиданный вопрос. Вы знаете, кто такой хлыщ? Вот говорят: молодой хлыщ, самодовольный хлыщ, легкомысленный хлыщ… Кто это?

В серии «Шедевры мировой литературы» недавно была переиздана книга известного российского литературного критика, друга и сподвижника Некрасова Ивана Панаева «Великосветский хлыщ». В ней – целая серия очерков о хлыщах. Значит, надо понимать, что слово не такое уж страшное: явно не матное, не бранное, не табуированное. Что-то из разряда франт, рисовщик, пижон… Не комплимент, конечно. Но за «не комплименты» у нас вроде бы не наказывали. Однако белорусская действительность доказывает, что нет того дна, которое невозможно пробить.

Как сообщают правозащитники, Минский районный суд наказал некоего Николая Антоновича полутора годами «домашней химии» по статье 391 УК РБ за оскорбление судьи. Во время процесса Антонович, недовольный тем, как себя ведет судья, произнес в его адрес: «Сидит какой-то молодой хлыщ…» Как ответочка прилетело не замечание и даже не штраф, а обвинение и наказание по статье Уголовного кодекса.

В политических процессах нас уже ничто не удивляет, в политических процессах все абсурды списывают на «целесообразность момента». Но гражданин Антонович судился с соседкой по даче. Никакой политики в его судебной истории поначалу не было. Но итог – как у всех: судья обиделся и наказал обидчика точно так же, как наказывают «политических».

Почему я пишу про некоего гражданина Антоновича, когда на этой неделе непонятно за что огромными тюремными сроками – больше, чем за убийство, – наказали Марию Колесникову и Максима Знака? Потому что многие до сих пор тешат себя иллюзией, что если они к политике не имеют отношения, то происходящее в стране их не коснется.

Коснется!

Ведь милиционеры либо понимают, что бесчеловечно избивать нельзя никого, либо им это позволено. Прокуроры либо следят за соблюдением законов, либо делают видимость, что следят. Судьи, идеологи, агитпроп либо понимают, что люди имеют право быть недовольными и высказывать свое недовольство, либо они всем и без разбора затыкают рот, не стесняясь в методах.

Сегодня наша власть именно это и делает – всем без разбора затыкает рот. Людей судят пачками по уголовным статьям за нелестные комментарии о президенте, милиционерах, чиновниках и даже за анекдоты.

6 сентября государственное агентство БЕЛТА сообщило о задержании рекордсмена – 35-летнего грузчика из Гомеля. Уточняется, что *«в одну из апрельских ночей мужчина разместил оскорбительные комментарии в адрес 19 высших государственных должностных лиц страны и руководящих работников госорганов, включенных в кадровый реестр главы государства»*.

Аж 19 обиженных!!! Я очень надеюсь, что этого человека не расстреляют. Особенно если все эти люди тонкой душевной организации исстрадались из-за какой-нибудь характеристики типа «хлыщ»…

Но надо понимать, что если так пойдет и дальше, то наказывать придется тех, кто смотрел представителю власти прямо в глаза, а не в пол; кто не подходил к высокопоставленной особе на полусогнутых; кто осмелился говорить громко и внятно, без дрожи в голосе… Ведь логика запугивания предполагает, что градус страха надо усиливать. До какого предела готовы дойти белорусские власти, если ограничители в виде здравого смысла давно пройдены? Боюсь, ответа на этот вопрос не знает никто.

Сегодня обществу дана четкая команда: «Молчать! Бояться!» На данный момент в Беларуси не могут выходить независимые газеты, заблокированы почти все негосударственные общественно-политические интернет-ресурсы, за решеткой «голос народа» – 28 журналистов, десятки, если не сотни простых людей уже осуждены за нелестные высказывания и комментарии, и не известно, сколько еще ждут приговора...

Только зачем это всё, если известно старое, проверенное веками правило: «Бойся не тех, кто в гневе кричит, бойся тех, кто молчит»?

Подобные «мудрости» сочиняли дураки? Мы перепишем мировой опыт человеческого общежития? Ой ли!

Белорусские власти закрыли-закупорили плотной крышкой репрессий, запретов, цензуры кипящий котел общественного мнения и ждут, что случится дальше. Ну так сразу скажу: если все усилия по-прежнему направлены на то, чтобы не слышать людей, то ничего хорошего не случится.

# SOS!

## Паводле інфармацыі праваабаронцаў, у Беларусі 659 палітвязняў

*У жніўні **136** чалавекам былі вынесены прысуды па палітычна матываваных крымінальных справах.*

*У месяцах зняволення на канец жніўня знаходзіліся **653** вязні.*

*У следчых ізалятарах працягваюць утрымлівацца такія вядомыя праваабаронцы, як **Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч, Уладзімір Лабковіч, Марфа Рабкова, Леанід Судаленка,** валанцёры **Таццяна Ласіца** і **Андрэй Чапюк.***

*Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь пазбаўлены рэгістрацыі Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, «Экадом», ліквідаваны або знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі каля 200 некамерцыйных арганізацый.*

З-ЗА КРАТАЎ

## Ірына Леўшына адмаўляецца даваць паказанні

*Галоўны рэдактар БелаПАН паведаміла на волю, што ніякіх следчых дзеянняў у СІЗА з ёй не праводзіцца.*



Нагадаем: галоўнага рэдактара і дырэктара БелаПАН **Ірыну Леўшыну** і былога дырэктара інфармацыйнага агенцтва **Дзмітрыя Наважылава** затрымалі 18 жніўня. Спачатку – па падазрэнні ў арганізацыі або падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, а пазней выставілі абвінавачанне паводле артыкула аб ухіленні ад выплаты падаткаў.

Ганна, дачка Ірыны Леўшынай, распавяла, што з моманту затрымання маці ёй прыйшоў ад яе толькі адзін ліст.

– *Са слоў адваката, маці адчувае сябе добра,* – кажа Ганна. – *Ніякіх следчых дзеянняў не праводзіцца, таму што мама не дае паказанняў.*

## У Сяргея Ціханоўскага праблемы са зрокам



Судовы працэс над **Сяргеем Ціханоўскім, Мікалаем Статкевічам, Ігарам Лосікам,** блогерамі **Уладзімірам Цыганоівічам, Дзмітрыем Паповым** і **Арцёмам Сакавым** пачаўся 24 мая і працягваецца да гэтага часу. Суд праходзіць у закрытым рэжыме на тэрыторыі гомельскага СІЗА №3.

Сяргей Ціханоўскі напісаў, што ў яго ёсць пэўныя праблемы са здароўем: *«У цэлым здароўе нармальнае, але раней моцна перажываў, і з-за гэтага былі праблемы з ціскам: 180 на 100 было. А праз ціск і зрок сапсаваўся…»*

*«Народная Воля»*
*в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не губляйце сувязі з «Народнай Воляй»!

Шаноўныя прыхільнікі «Народнай Волі»!

Мы разумеем, якую ролю ў Вашым жыцці адыгрывае незаангажаванае **свабоднае СЛОВА**, якое не прайшло праз абмежаванні жорсткай цэнзуры.

Такое **свабоднае СЛОВА** вось ужо 27-ы год даносіць «Народная Воля». І рэдакцыя прыкладае ўсе высілкі для таго, каб наша і ваша газета як мага хутчэй змагла друкавацца на паперы і даходзіць да чытачоў у ранейшым варыянце. На жаль, пакуль нам адмоўлена ў паліграфічных паслугах як у Беларусі, так і ў Расіі. А таму працягваем выдаваць «Народную Волю» ў электронным варыянце. Вядома ж, не ўсе Вы, сябры, карыстаецеся камп'ютарам. Але выйсце ёсць: не можа быць, каб нехта з Вашых родных, сяброў, суседзяў, саслужыўцаў не быў у ладах з сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. Папрасіце іх, каб яны за Вашы сродкі падпісалі Вас на PDF-версію газеты, і ўжо праз іх Вы зможаце атрымліваць самыя свежыя нумары «Народнай Волі» ў раздрукаваным выглядзе.

Падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце ***belpressa.by***. Для гэтага трэба зайсці на сайт ***belpressa.by***, націснуць укладку ***«2021»*** і выбраць месяцы, на якія вы будзеце афармляць падпіску.

Паколькі рэдакцыя ўжо каторы месяц не мае даходаў ад рэалізацыі выдання праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то мы рэальна зацікаўлены ў павеліччні падпісчыкаў на PDF-версію.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759, ОКПО 37381505
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759, ОКПО 37381505
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

СТОП-КРАН

## «Белнафтахім» прыпыніў прапампоўку нафты па «Дружбе»

*Прапампоўка спынена да 13 верасня ў напрамку Славакіі і Венгрыі.*

*Як паведаміў афіцыйны прадстаўнік «Транснафты»* ***Ігар Дзёмін,*** «да 13 верасня «Белнафтахім» спыніў прапампоўку па магістральным нафтаправодзе «Дружба» ў напрамку на Будкавіцы і Фенешліткe, запусціўшы яе ў рэверс з-за прыёму партыі нафты па нафтаправодзе «Адэса–Броды» на тэрыторыю Беларусі».

СТАЛА ВЯДОМА

## Леанід Судаленка сустрэўся з сынам

Праваабаронца **Ленаід Судаленка** дамогся спаткання з сям'ёй, пра што напісаў у лісце.

*«Упершыню за 8 месяцаў убачыў сына,* – паведаміў ён. – *Дзве гадзіны па тэлефоне праз два шкла. Тым не менш прамень святла ў цёмным царстве.*

*У верасні мне пералічаць тэрмін у зняволенні. Цяпер дзень у СІЗА ідзе ў залік як паўтара».*

Суд па справе супраць палітзняволенага праваабаронцы Леаніда Судаленкі і валанцёрак **Таццяны Ласіцы, Марыі Тарасенка** пачаўся 3 верасня і праходзіць у закрытым рэжыме. Іх вінавацяць у *«арганізацыі і фінансаванні дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак».*



**Віктар ШПАК.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Каранавірус не здаецца…

Міністэрства аховы здароўя паведаміла, што за апошнія суткі зафіксаваны 1842 выпадкі каранавіруса (памерлі 11 чалавек), а выпісаны 1607 чалавек.

Учора паведамлялася пра 1760 выпадкаў.

З пачатку пандэміі было зафіксавана 497.420 выпадкаў. Выздаравеў 488.341 чалавек.

За ўвесь час памерлі 3882 чалавекі.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 ВЕРАСНЯ 2021 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Вновь подфартило?

По итогам января–июля текущего года профицит бюджета сектора государственного управления, в который входят республиканский бюджет, местные бюджеты и бюджет ФСЗН, выполнен с профицитом в размере 1,132 млрд рублей. При этом республиканский бюджет выполнен за семь месяцев с дефицитом в 0,5 млрд рублей. Плюсовали, то есть вышли с профицитом, местные бюджеты и ФСЗН. Что интересно, по итогам полугодия бюджет сектора государственного управления был исполнен с дефицитом в размере 0,9 млрд рублей, и тут вдруг июль вывел его в плюс. В июле, когда платятся квартальные налоги, доходы вышли рекордными за всю историю – аж 7,131 млрд рублей – и на 2 млрд превысили расходы. Столь значительный успех был достигнут волшебным образом в основном за счет сверхплановых поступлений налога на прибыль. Того налога, план по которому в былые годы хронически не выполнялся. Если за январь–июнь налог дал 2,9 млрд, то только за один июль поступления по налогу на прибыль достигли 1,2 млрд рублей.

Намного превышают план и доходы от внешнеэкономической деятельности, составившие за семь месяцев 2,9 млрд рублей, что есть 70,5% годового плана. По главным белорусским экспортным товарам, а это нефтепродукты, калийные удобрения и продовольствие, повысились мировые цены и восстановились доковидные объемы спроса. Пока производители других стран ограничивали производство, ряд бесперебойно работающих белорусских предприятий разгрузил свои склады и расширил рыночные ниши, в том числе за счет сравнительно невысоких цен и приемлемого качества продукции – традиционных наших фишек. Как раз одно из следствий коронакризиса, полезное для белорусского экспорта, – глобальный рост цен на многие мировые товары, включая продовольствие. От этого выиграло наше сельское хозяйство. Выиграли в международной торговле и сегодня купаются в прибыли белорусский лесопромышленный комплекс и лесное хозяйство. Особенно лесозаготовки и лесопиление. На мировом рынке летом цена кубометра пиломатериалов достигала рекордных 400 долларов, а рентабельность этой продукции находится в районе 20–30%. И лес рубят – щепки летят. Хотя лесоустроители утверждают, что перерубов лесосеки нет, деревенские жители этому не верят.

Формированию профицита бюджета способствовала также экономная политика Министерства финансов, которое сократило запланированные расходы. Например, на расходы по общегосударственной деятельности за 7 месяцев ушло 6,7 млрд рублей, что составило всего 50% от годового плана.

На руку финансовому равновесию пришлась и жесткая денежно-кредитная политика Нацбанка. Он, как и раньше, «сушит» ликвидность банкам. На последнем кредитном аукционе было удовлетворено заявок только на 80 млн рублей из запрошенных банками 478,6 миллиона. Тем самым главный регулятор железной рукой ограничивает рост рублевой денежной массы, а в отдельных случаях и уменьшает ее. Поэтому валютный курс белорусского рубля зафиксировался, несмотря на то, что банковская система переживает жестокий кризис из-за продолжающегося оттока валютных депозитов.

В общем, как когда-то говаривал бывший министр экономики Н.Снопков, «если звезды сойдутся»... Так вот пока звезды сходятся удачно для белорусской экономики. А именно: с внешнеэкономическими факторами белорусским властям явно подфартило, как это случалось и в прежние годы. Однако напрашивается главный вопрос: как долго будет продолжаться новое «белорусское экономическое чудо»?

Аналитики приводят и другие данные. Почему при росте ВВП не увеличивается розничный товарооборот? С ведущих белорусских предприятий продолжают увольнять работников больше, чем принимают, на тысячи человек. Строительство и транспортная сфера не прибавляют. По-прежнему многие крупные предприятия обременены долгами друг другу и банковской системе. Многие неподъемные долги предприятий перекладываются на бюджет, то есть на всё общество. Никуда не делись обязательства по выплате госдолга. И, наконец, санкции. Проявление их последствий пока отложено. Когда они развернутся, экспортное чудо, скорее всего, сойдет на нет. Неслучайно рейтинговое агентство S&P недавно подтвердило негативный прогноз для Беларуси.

Экономика – вещь инерционная. И темпов роста экспорта и ВВП, набранных в первые месяцы, на мой взгляд, будет достаточно, чтобы пройти в финансовом отношении нормально этот год и выполнить правительственный годовой план по приросту ВВП на 1,8%. Но вот как будет складываться под влиянием нарастающих санкций Запада следующий год – в этом, мягко говоря, полная неопределенность.

СІТУАЦЫЯ

# З-за санкцый на беларускіх заводах узніклі праблемы

Пад заходнія санкцыі патрапілі беларуская машынабудаўнічыя прадпрыемствы МАЗ, БЕЛАЗ, «Амкадор», яны адчуваюць складанасці ў рабоце на еўрапейскім і амерыканскім рынках, у тым ліку недаатрымліваюць важныя дэталі.

Пра гэта першы намеснік міністра прамысловасці Беларусі **Сяргей Гунько** заявіў у інтэрв'ю прапагандыстам «С.Б. Беларусь сегодня», піша *censor.net*.

*«Сярод прадпрыемстваў краіны, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні Міністэрства прамысловасці, пад прамое дзеянне санкцый падпалі тры кампаніі – МАЗ, «Амкадор», БЕЛАЗ. Для іх значна ўскладнілася праца на амерыканскім і еўрапейскім рынках. Аднак санкцыйны ціск не абмяжоўваецца толькі гэтым. Ёсць і іншыя праблемы – у пастаўцы тэхналогій, абсталявання для нашых кампаній»*, – заявіў Гунько.

Паводле яго ных слоў, *«мы недаатрымалі дэталі на асобныя важныя пазіцыі»*. Сярод іншага кампанія Mercedes адмовілася пастаўляць у Беларусь свае рухавікі.

*«У нас былі заказы на аўтамабілі з рухавіком Mercedes, але калі сёння не можам іх паставіць, то будзем укамплектоўваць свае вырабы іншымі»*, – сказаў чыноўнік.

Намеснік міністра адзначыў, што *«самае важнае пытанне для нас сёння – рухавікі БЕЛАЗ, але нават тут ужо маюцца падыходы і развязанні, як не страціць гэтую нішу і рэпутацыю»*.

Савет ЕС 24 чэрвеня прыняў пастанову аб увядзенні сектаральных санкцый у дачыненні да рэжыму ў Беларусі.

РАСЦЭНКІ

## Ад 500 да 10 тысяч долараў

*Колькі грошай пойдзе на ганарары для артыстаў на Дзень горада?*

Днямі стала вядома, хто з артыстаў выступіць у Мінску на Дні горада. *«Наша Ніва»* паспрабавала падлічыць, колькі грошай з бюджэту пойдзе на ганарары для іх.

Асноўны канцэрт чакаецца 11 верасня каля Палаца спорту – там анансаваны маладзёжна-музычны фестываль. Хэдлайнерам свята стане рэпер Сярога. Яго стандартны ганарар – 10 тысяч долараў.

*«Няважна, ён спяе адну песню ці дзесяць, яго дзень каштуе столькі»*, – патлумачыў канцэртны агент, як звычайна аплачваецца выступленне рэпера на карпаратывах.

Расцэнкі астатніх артыстаў больш сціплыя. Вось якія ганарары закладаліся на іншых дзяржаўных канцэртах: Герману Цітову – 3000 рублёў, гурту «Дразды» – 2000, Вікторыі Алешка – 1700, Тэа – 1600, гурту «Статус» – 1500.

Гурт «Радыёхваля» за 50 хвілін на сцэне бярэ 500 долараў.

Калі сыходзіць з такіх ганарараў, агулам атрымліваецца каля 14,4 тысячы долараў.

ЧУЛІ?

## Улады Беларусі абмяркоўваюць крэдыт на 3 мільярды долараў з Еўразійскім фондам стабілізацыі і развіцця

Улады Беларусі абмяркоўваюць магчымасць прыцягнення крэдыту на суму да 3 мільярдаў долараў часткова або цалкам са сродкаў Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР), распавялі *РБК* дзве крыніцы ў беларускім урадзе, са слоў якіх гэтае пытанне стала адной з тэм перамоў з Расіяй. У ЕФСР пацвердзілі РБК, што фонд праводзіць папярэднія кансультацыі з Беларуссю, але *«казаць аб суме крэдыту і канкрэтных тэрмінах яго прадастаўлення пакуль рана»*.

8 верасня міністр фінансаў Расіі **Антон Сілуанаў**, які з'яўляецца паўнамоцным прадстаўніком Расіі ў ЕФСР, заявіў, што Расія можа аказаць дадатковую падтрымку ўладам Беларусі.

*«Мы бачым, што наш сусед апынуўся ў няпростым фінансавым становішчы. Таму мы ўзаемадзейнічаем з нашымі калегамі, розныя пытанні падтрымкі абмяркоўваюцца. Але зараз самая галоўная задача накіравана на тое, каб стымуляваць працэс інтэграцыі, падпісання так званых стратэгічных планаў па інтэграцыі нашых эканомік. Сёння гэта самае галоўнае на парадку дня. Але я не выключаю таго, што нейкія віды падтрымкі мы зможам пры неабходнасці аказаць нашым беларускім партнёрам»*, – сказаў ён, адказваючы на пытанне РБК аб планах Расіі на аказанне фінансавай дапамогі Беларусі. У якой форме можа быць аказана дапамога, ён не ўдакладніў.

Пакуль пытанне выдзялення сродкаў не ўзгоднена расійскім бокам, паводле дадзеных якога ў фонду адсутнічае магчымасць даць усю запытаную суму, адзначыў суразмоўца РБК у беларускім урадзе. Гэтую пазіцыю пацвердзіла РБК крыніца ў расійскім Кабінеце міністраў.

Зараз ліміт ЕФСР на прадастаўленне крэдытных рэсурсаў Беларусі складае каля 1,98 мільярда долараў, і ён цалкам вычарпаны.

Таму восенню 2020 года прадастаўленне новага крэдыту ЕФСР Мінску на 500 мільёнаў долараў запатрабавала пераразмяркавання дадзенай сумы з ліміту Расіі на карысць Беларусі, пра што было прынята адпаведнае рашэнне Савета ЕФСР. Ліміт Расіі складае каля 3,5 мільярда долараў, то-бок магчымае далейшае крэдытаванне Беларусі запатрабавала б ізноў задзейнічаць расійскі ліміт у фондзе.

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Праца ёсць: ідзіце даіць кароў

*Жыхарка вёскі Сурынка Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці Ганна Розум, якую скарацілі на працы, распавядае, якія вакансіі прапаноўваюць у сучасным аграгарадку.*

### Сітуацыя

Ганна Артураўна Розум больш за дзесяць гадоў адпрацавала памочніцай выхавацеля ў школе-садку вёскі Сурынка Слонімскага раёна. Сёлета яе пасаду скарацілі па прычыне таго, што дзяцей у садку стала менш: калі раней былі дзве групы – старэйшая і малодшая, то зараз засталася толькі адна, у якую ходзяць дзеткі ад 2 да 6 гадоў.

*– Нам паабяцалі, што калі набяром 17 дзяцей, то пакінуць дзве групы,* – распавядае жанчына. *– Мы хадзілі па вёсцы, прасілі людзей, каб яны аддавалі сваіх дзетак у садок. Набралі 17 чалавек, а нам загадчыца аддзела адукацыі кажа: для двух груп такой колькасці дзетак ужо недастаткова – патрэбна 22.*

Не знайшлі падтрымкі ў аддзеле адукацыі Слонімскага райвыканкама і просьбы бацькоў пакінуць у школе-садку дзве групы.

Так жанчына засталася без працы. А мела яна для вёскі, як сама зауважае, не самы малы заробак – 650 рублёў у месяц.

Жыве Ганна Артураўна з мужам, які працуе ў мясцовай гаспадарцы трактарыстам і зарабляе каля 700 рублёў. У сям'і чацвёра дзяцей. Дзве дачкі маюць свае сем'і, у спадарыні Ганны трое ўнукаў. А малодшыя дзяўчынкі – 14 і 17 гадоў – жывуць з бацькамі. Старэйшая з іх сёлета паступіла ў медыцынскі каледж на платнае аддзяленне.

*– Трэба аплачваць вучобу дачкі, а на адзін заробак мужа мы ўсё не пацягнем,* – кажа жанчына.

Праўда, ёй прапанавалі ў школе палову стаўкі вартаўніка з заробкам 240 рублёў. Давялося адмовіцца, узважыўшы, што дзіця на гэтыя грошы не вывучыш.

### «Патрабуюцца аператар машыннай дойкі і жывёлавод»



Знайсці працу на вёсцы не так проста. А таму Ганна Розум пісьмова звярнулася ў Слонімскі райвыканкам з просьбай аказаць яе сям'і дзяржпадтрымку. Падрабязна апісала сваю сітуацыю, папрасіла паспрыяць у працаўладкаванні, улічваючы яе вопыт. Абапіраючыся на ўказ прэзідэнта №41 «Аб дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамозе», папрасіла прызначыць такую дапамогу яе сям'і.

*– Напісала: маўляў, паколькі даход майго мужа-трактарыста ў мясцовым аграпрамысловым прадпрыемстве складае ў сярэднім 700 рублёў у месяц, а ў мяне няма заробку, то ў нашай сям'і можа адбыцца сітуацыя, якая ў заканадаўчых дакументах называецца «цяжкія жыццёвыя абставіны».*

З упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Слонімскага райвыканкама прыйшоў адказ. У ім падрабязна распісана, хто і ў якіх сітуацыях, паводле заканадаўства, мае права на атрыманне адраснай дапамогі і якія для гэтага патрэбны дакументы. Патлумачана, якім чынам можна зарэгістравацца беспрацоўнай у службе занятасці. А таксама паведамляецца, што зараз у гаспадарцы, на тэрыторыі якой пражывае жанчына, ёсць вакансіі для працаўладкавання: аператар машыннай дойкі і жывёлавод.

Спадарыня Ганна была «расчулена» такім клопатам:

*– Мне хутка 50 гадоў, а чыноўнікі прапаноўваюць ісці даяркай на ферму. Гучыць як насмешка. Няма ўжо таго здароўя, каб выконваць такую цяжкую працу. Але хіба яны пра гэта думаюць?*

Тым не менш да пенсіі дапрацаваць трэба, і Ганна Артураўна бачыць толькі адно выйсце – шукаць працу ў горадзе. Так зрабілі многія яе аднавяскоўцы. Праўда, да Слоніма 17 кіламетраў, а свайго транспарту ў яе няма.

Што тычыцца адраснай дапамогі, то спадарыні Розум прапанавалі пакуль сабраць неабходныя дакументы і прадставіць у аддзел занятасці, а там, маўляў, разбяруцца і вырашаць, што рабіць.

Але самае прыкрае, лічыць Ганна Артураўна, тое, што ў вёсцы, калі чалавек страціў працу, то выбару, акрамя як даіць кароў, ён ужо не мае.

*– Здаецца, і вёска ў нас немалая, і называецца аграгарадком, толькі вось як не было працы, інакш як на ферме, так і няма. А на двары XXI стагоддзе...*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

РЭАЛІІ

# 435,8 тысячы маюць даход, ніжэйшы за пражытачны мінімум

## 10 лічбаў пра жыццё беларусаў

*Які ўзровень жыцця беларусаў паводле афіцыйнай статыстыкі?*

### 39% асноўных трат – на ежу




У структуры трат найбольшае месца ў беларусаў займае ежа (39,1%), у 2020 годзе гэты паказчык вырас на 0,4%. Другая катэгорыя трат – неспажывецкія тавары: 33,9%. Трэцяя – аплата паслуг, на паслугі прыпадае 24,3% ад усіх трат.

На жыллё прыпадае 10,4% ад усіх трат, на транспарт – 10,3%.

**Для параўнання:** у Нямеччыне на харчаванне прыпадае 11,7% расходаў, у Літве – 25,4%.

### У Беларусі 206,2 тысячы беспрацоўных




Паводле звестак Белстата, у Беларусі не працуюць 206,2 тысячы чалавек, з іх 168 тысяч жывуць у гарадах і паселішчах гарадскога тыпу і 38,2 тысячы – на вёсцы. Найбольш беспрацоўных сярод людзей з агульнай базавай адукацыяй: такіх 11%.

Калі глядзець на ўзроставую катэгорыю, то найбольш беспрацоўных ва ўзросце 15–19 гадоў.

### Сярэдні даход – 319 долараў

Сярэдні даход у Беларусі – 801,3 рубля, або 319 долараў. Найбольшы сярэдні даход – у Мінску (1199,8 рубля), а найменшы – у Магілёўскай вобласці (661 рубель).




### На дэпазітах беларусаў – 22,4 мільярда рублёў




22,4 мільярда рублёў – столькі грошай беларусы захоўваюць на дэпазітах, годам раней было 24 мільярды. То-бок за год беларусы знялі з дэпазітаў 2 мільярды рублёў.

### 15,5 мільярда беларусы вінны па крэдытах




Агулам у беларусаў 15,5 мільярда рублёў крэдытаў, якія трэба вяртаць. Найбольш крэдытаў у жыхароў Мінска – 3,5 мільярда рублёў.

### 1,5% маюць у месяц менш за 200 рублёў




Калі паглядзець на ўзровень сярэднедушавых рэсурсаў у хатніх гаспадарках, то 1,5% беларусаў маюць на месяц менш за 200 рублёў, 2,8% маюць 200–250 рублёў на месяц, і толькі 7,2% маюць больш за 1000 рублёў.

### 4,8% беларусаў лічацца малазабяспечанымі




Даход 4,8% беларусаў не перавышае бюджэту пражытачнага мінімуму. Такія людзі лічацца малазабяспечанымі. Гэта 435,8 тысячы чалавек. Бюджэт пражытачнага мінімуму для працаздольных грамадзян – 315,04 рубля, агульны – 284,3 рубля.

### 21,7% беларусаў кураць

З гадамі адсотак беларусаў, якія кураць, зніжаецца. Напрыклад, у 2016 годзе курылі 24% беларусаў, цяпер – 21,7%. Найбольш кураць ва ўзросце ад 40 да 49 гадоў, такіх 31,9%.

64,8% тых, хто курыць, хацелі б пазбавіцца гэтай звычкі.

24,1% беларусаў не ўжываюць спіртных напояў. 41,3% ужываюць моцныя спіртныя напоі, 45,3% – слабыя спіртныя напоі. 32% – ужываюць піва.




### 10,5% незадаволены ўзроўнем даходаў




Паводле звестак Белстата, толькі 10,5% хатніх гаспадарак у Беларусі ў 2020 годзе не былі задаволены ўзроўнем даходаў. Найбольш такіх было ў Брэсцкай вобласці – 12,7%.

### 13,5% беларусаў вядуць здаровы лад жыцця




13,5% беларусаў, якім больш за 16 гадоў, вядуць (з іхніх слоў) здаровы лад жыцця. Тры гады таму такіх людзей было 8,1%.

Найбольш такіх людзей у горадзе – 14,2%, на вёсцы – 10,6%. Найбольш людзей, якія вядуць здаровы лад жыцця, ва ўзросце 60 гадоў і болей, такіх 18,6%.

*Крыніца – Белстат.*

ПОЗИТИВ

## Золотовалютные резервы Беларуси за август выросли на 14,2% до 8,5 миллиарда долларов

Международные резервные активы Беларуси на 1 сентября 2021 года, по предварительным данным, составили 8496,7 млн долларов в эквиваленте, сообщили БЕЛТА в управлении информации и общественных связей Национального банка.

За август 2021 года золотовалютные резервы увеличились на 1054,3 млн долларов (на 14,2%) после роста в июле на 33 млн долларов (на 0,4%).

Рост уровня золотовалютных резервов в августе в основном обусловлен распределением специальных прав заимствования Международного валютного фонда, покупкой Национальным банком иностранной валюты на торгах Белорусской валютно-фондовой биржи, а также поступлением иностранной валюты в бюджет.

В августе 2021 года правительством исполнено внешних и внутренних обязательств в иностранной валюте на сумму порядка 340 млн долларов.

Согласно основным направлениям денежно-кредитной политики на 2021 год, объем международных резервных активов на 1 января 2022 года должен составить не менее 6 млрд долларов.

СКАЗАНО

## Замдиректора МТЗ пожаловался на пустые склады

На днях заместитель генерального директора по маркетингу ОАО «МТЗ» **Михаил Кадников** заявил, что дела на заводе идут прекрасно. Предприятие работает даже по субботам, а склады пустые.




По словам Михаила Кадникова, за 8 месяцев 2021 года экспорт продукции вырос на 135%, поэтому завод вынужден работать даже по субботам, чтобы выполнить все заказы.

*«К сожалению, сейчас склад пустой. Работаем наперед. Есть заказы. До конца года обеспечены. Поэтому стучу по дереву, что будет так и дальше»,* – рассказал в интервью ОНТ заместитель генерального директора.

Интересно, а что будет по итогам года? Не отразятся ли санкции со стороны США и Евросоюза на дальнейшей работе Минского тракторного завода?

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Буслы і дзеркачы кур'еры ў іх, лічы

Сілавікі зрабіліператрус у офісе арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны». Паводле слоў дырэктара, яны знялі копіі некаторых дакументаў, праверылі тэлефоны супрацоўнікаў.

Ні для каго, відаць, не нова:
Знікаюць птушкі на зямлі.
Ім патрабуецца ахова,
Каб не ўміралі, а жылі.
І людзі збіліся ў суполку:
Ямчэй ахоўваць іх гурбой,
Бо з калектыву болей толку
У справе кожнай і любой.
Цудоўнай задаліся мэтай,
Ухвалім мы намер такі!
Ды сталі і суполкай гэтай
Цікавіцца сілавікі.
І неўзабаве той «Ахове»
Нанеслі, так сказаць, візіт.
– Ператрасём мы вас, панове,
Усё праверым! – грозны від
У адмысловага службіста,
На ператрусы ён мастак, –
Бо падазрона ўсё, нячыста,
Тут нешта робіцца не так.
– Вы гэта кажаце без здзеку?
Што можа быць не так, калі
Мы пад ахову, пад апеку
Тутэйшых птушак узялі?
Якая ў гэтым ёсць крамола
Ці нейкі шкурны інтарэс?
– Падставы ёсць для пратакола,
Бо вы, лічы, нацдэмы спрэс!
Уладу ганіць ваша фірма,
А значыць, нам псуе жыццё.
Ахова птушак – проста шырма,
Крамольных планаў прыкрыццё.
А можа, для сваёй карысці
Вы скарысталі птушак нат.
Вось я, напрыклад, чуў калісьці,
Бо не чытаю дужа шмат:
На поўдзень ходзяць пехатою –
Лятаюць дрэнна – дзеркачы.
Вы, можа, скарысталі тое:
Кур'еры лепшыя, лічы.
Надрэсіруй іх трохі толькі
(А ў вас жа пад рукой яны),
І будуць гнюсныя лістоўкі
Разносіць тыя хадуны.
Згадзяцца і другія птушкі.
Буслы дарэчы акурат:
У дзюбах пратэстоўцам стужкі
Даставяць, а не немаўлят,
Хоць у краіне мала дзетак
І дэмаграфія на дне.
Вы, можа, і рабілі гэтак.
Ва ўсякім разе
У мяне
Да вас няма ніякай веры,
І імідж ваш не па нутру.
На ўсякі выпадак паперы
Я для праверкі забяру,
Зірну, якая ў вас «ахова»…
…На жаль, падслухаць я не мог,
Якая там была размова,
Ці быў падобны дыялог,
Бо ў гэты дзень не крочыў міма.
Ды я, паверце, не трапло:
Па сутнасці зусім магчыма,
Што так, прынамсі, і было…

***

Нас кантралююць як ніколі.
Улада з гэтае пары
Трымае й птушак на кантролі!
А на чарзе, відаць, звяры…

### На ўласным прыкладзе

Вядуць размову маладзіцы:
– Мужчыны – сволачы! Яны
Залазяць пад усе спадніцы
Ці рукі сунуць у штаны.
– Ну, не скажы. Блудліўцы ўсё-ткі
Не ўсе навокал мужыкі.
Ты распускаеш чуткі-плёткі…
Мой муж, напрыклад, не такі.
Ён нават не ўспрымае ласку,
Рукой жанчыну адграбе.
– Ды ты мне не расказвай казку!
– Я гэта знаю па сабе…

### Не памыліўся

Званок раздаўся тэлефонны.
Гучыць дзявочы голас сонны:
– Алё! Я слухаю. І хто вы?
Хлапец прабачыцца гатовы:
– Напэўна, памыліўся проста…
Але які ў вас нумар?
– Шосты.
І вырвалася ў хлопца з глоткі:
– Э, не, не памыліўся ўсё-ткі!

ХАЧУ СКАЗАЦЬ

# Прыгожы лозунг і суровая рэальнасць

Беларускі спорт, як, бадай, і ўсё астатняе ў нашай краіне, апошнім часам прабівае адно дно за другім. На апошніх Алімпійскіх гульнях айчынныя спартсмены сукупнымі высілкамі назбіралі найменшую колькасць медалёў за ўвесь час незалежнасці – усяго сем. Для параўнання: у 2000 годзе ў Сіднее было 17. Розніца істотная.

Дарэчы, не чуваць гучных фанфар нават з нагоды гэтых сціплых дасягненняў, бо радавацца асабліва няма чаму. А спартыўнае чынавенства замест таго, каб разбіраць прычыны правалу, цкуе «перабежчыцу» Крысціну Ціманоўскую. У тым ліку і дзеля таго, каб прыкрыць свае галовы ад гневу галоўнага беларускага начальніка. Шырокай грамадскасці, дарэчы, прызёры Алімпіяды таксама не надта цікавыя, бо ўсе яны так ці інакш de facto «ўпісаліся» за рэжым, занялі пазіцыю «мая хата з краю», не выказалі сваю нязгоду з тым жахам, што адбываецца ў краіне.

Шчыра кажучы, не магу сказаць, што я вельмі пільна сачыў за Алімпіядай. Мяне больш уразілі нашы апошнія футбольныя ды хакейныя правалы. Скажам, яшчэ нядаўна нашы клубы зусім някепска выступалі ў еўракубках, а зараз прайграюць камандам, нават назвы якіх нам мала што кажуць. І нельга сказаць, што гэтыя вынікі выпадковыя, што яны не выцякаюць з агульнага стану нашага футбола і спорту ўвогуле. Калі вы шмат гадоў ідзяце няверным курсам, то непазбежна апынецеся ў прорве. Тое мы і назіраем. C'est la vie.

Ёсць знакаміты выраз: спорт мусіць быць па-за палітыкай. Але гэта крывадушнасць. Так, магчыма, у нейкім ідэальным жыцці гэта можа быць, аднак на практыцы звычайна так не атрымліваецца. Спорт – неад'емная частка нашага жыцця, якое па вялікім рахунку і ёсць палітыка. Аддзяліць адно ад другога тут вельмі цяжка, калі ўвогуле магчыма.

У гэтым сэнсе быў паказальным розгалас вакол нядаўняга інцыдэнту ў Рызе, дзе тамтэйшы мэр Мартыньш Стакіс замяніў дзейны афіцыйны сцяг Беларусі на бел-чырвона-белы. Так, мабыць, і не варта было таго рабіць, але ж гэта была рэакцыя на тое, што адбываецца ў нашай краіне апошнім часам. Увогуле, калі паглядзець на гісторыю, то можна прыгадаць і Алімпійскія гульні 1980 года ў Маскве, якія байкатавалі заходнія краіны, і наступныя гульні 1984 года ў ЗША, ужо байкатаваныя сацыялістычнай супольнасцю. Рэчаіснасць палягае ў тым, што спорт рэгулярна выкарыстоўваецца як палітычны інструмент, асабліва недэмакратычнымі рэжымамі. Спрачацца з гэтым марна. Дастаткова прыгадаць буйныя спартыўныя спаборніцтвы, якія прымалі некалі Беларусь, Азербайджан ды іншыя. Спорт і палітыка там ішлі побач. Таксама спорт часта выступае механізмам высвятлення адносін паміж краінамі, якія маюць пэўныя канфлікты між сабой, як, скажам, Брытанія і Аргенціна. УЕФА разводзіць у еўракубках расійскія ды ўкраінскія клубы – хіба гэта не праява таго, што спорт і палітыка досыць шчыльна звязаныя?

Карыстаючыся магчымасцю, хачу сказаць яшчэ вось пра што.

Не сакрэт, што беларускіх спартсменаў масава прымушалі падпісваць лісты ў падтрымку лукашэнкаўскага рэжыму. А тых, хто адмаўляўся ці выказваў альтэрнатыўныя погляды, проста выкідвалі з прафесіі. Гэта, дарэчы, вельмі паказальна з пункта гледжання двайных стандартаў: калі рыжскі мэр здымае дзяржаўны сцяг, то нашы ўлады абураюцца і кажуць, што спорт па-за палітыкай. А потым бяруць і адсякаюць «ненадзейных» спартсменаў, прычым не нейкіх заштатных, а найлепшых, гонар беларускага спорту. Зразумела, што гэта моцна б'е па перспектывах таго самага спорту і яго бягучых выніках. І гэта датычыць не толькі спартсменаў, але і трэнераў, большасць з якіх займалі ды і зараз займаюць свае пасады не таму, што яны лепшыя, а таму, што яны прагнуліся пад рэжым. Такім быў **Міхаіл Мархель**, былы трэнер зборнай Беларусі па футболе, такім быў **Міхаіл Захараў**, пад кіраўніцтвам якога наша хакейная дружына зганьбілася на чэмпіянаце свету па хакеі.

Можна, канешне, казаць, што гэта наш аб'ектыўны ўзровень, што з такімі выканаўцамі мы не маглі разлічваць на большае, але, мне здаецца, гэта не зусім так. Мы можам выступаць лепей, але для гэтага нашы спартсмены мусяць рыхтавацца ў нармальных умовах, а не пад прэсам ўсяго таго, што адбываецца ў краіне. Тыя ж хакеісты жывыя людзі, і калі ў іх краіне адбываецца такі жах, гэта не можа не адбівацца на іх эмацыйным стане, на настроі. Цяжка засяродзіцца на абароне гонару тваёй дзяржавы, калі кіраўніцтва дзяржавы робіць ўсё, каб гэты гонар знішчыць, а спартыўная супольнасць краіны падвяргаецца татальнаму разгрому і зараз фактычна падзелена на сваіх і чужых. Я кепска сабе ўяўляю, як можна гуляць у хакей у падобных умовах. Хаця, канешне, пасля пройгрышу камандзе Брытаніі на чэмпіянаце свету гэта ўжо апраўданне на карысць бедных.

Спорт па-за палітыкай – гэта ідэал, які, на жаль, маладасягальны. Але трэба імкнуцца да таго, каб палітыка не перашкаджала спорту, не падмяняла яго, а, насупраць, дапамагала яму. Задача таксама няпростая. Баюся, што пры існуючым рэжыме яна застанецца нявыкананай. А значыць, чакаць нейкіх значных поспехаў ад нашых спартсменаў нам давядзецца яшчэ вельмі доўга.

**Дзмітрый КУРАТНІК,**
**сталы чытач «Народнай Волі».**

ДУХОВНАЯ ЖИЗНЬ

# Первое осеннее богослужение снова прошло на парковке

*В первое воскресенье сентября верующие из «Новой Жизни» и других церквей собрались на богослужение на парковке на Ковалева, 72. Христиане в единстве помолились за Беларусь, а также приняли хлебопреломление. Старший пастор «Новой Жизни» **Вячеслав Гончаренко** проповедовал о том, что самое главное – это оставаться человеком.*










– «О, человек! сказано тебе, что – добро и чего требует от тебя Господь: действовать справедливо, любить дела милосердия и смиренномудренно ходить пред Богом твоим» (Михей 6:8).

Я размышляю, что происходит в жизненном цикле, когда рождаются и вырастают дети, затем люди идут на работу, потом выходят на пенсию. Мы видим, как сменяются времена года, наступает жатва. Всё происходит так, как будто мы захвачены этим. Но посреди всего, что происходит в жизни, надо помнить: самое главное, что Господь требует от нас, – это чтобы мы оставались людьми. Главное не прогресс, не образование. Главное – оставаться человеком.

– Человек, у которого нет в сердце Бога, нет Его природы, нет любви, может насеять в близких так много плевел (сорняков). Так получаются люди с больными душами. Они ничего не могут дать этому миру, чтобы сделать его лучше, – *продолжил пастор.* – Нам всем предложена свобода выбора, мы созданы со свободной волей, мы сотворены по образу и подобию Бога. Мы можем выбрать – жить с Богом или идти к погибели.

«Только это я нашел, что Бог сотворил человека правым, а люди пустились во многие помыслы» (Екклесиаст 7:29).

У НИХ

## Стало известно, когда средняя зарплата в Польше превысит 1500 евро

Средняя зарплата в Польше уже в 2023 году превысит 6 тысяч злотых без вычета налогов (около 1290 евро), а в 2025-м она составит 7111 злотых (порядка 1530 евро), – сообщает *Rzeczpospolita*, исходя из данных правительства, представленных в проекте бюджета на следующий год.

Это означает, что в Польше будут зарабатывать на 1900 злотых (410 евро) больше, чем в 2020 году. Специалисты, к которым за комментарием обратилась газета, подтверждают реальность такого сценария.

*«Ситуация на рынке труда и в экономике приводит к тому, что зарплаты будут расти быстрее, чем в предыдущие годы»,* – заявляет **Рафал Бенецкий**, главный экономист ING Bank Śląski. Как он объясняет, прогнозы роста ВВП оптимистические, а при низкой безработице, растущих социальных выплатах и нехватке рабочих рук работники будут диктовать работодателю свои условия и вынуждать повышать оплату труда.

Вместе с тем Rzeczpospolita также обращает внимание, что у зарплаты в 7 тысяч злотых через четыре года будет другая покупательная способность, поскольку также вырастут цены на продукты и услуги. Тем не менее, как заверяет в интервью изданию Rzeczpospolita **Уршуля Крыньская** из универсального банка PKO BP, даже с учетом инфляции покупательная способность средней зарплаты по стране будет увеличиваться на 3–4% в год.

РАЗБОРКІ

# Трыбунал у Гаазе абавязаў улады Беларусі кампенсаваць інвестару больш за 20 мільёнаў долараў

Міжнародны арбітражны трыбунал у Гаазе абавязаў Беларусь выплаціць амаль 22,5 мільёна долараў расійскаму інвестару за экспрапрыяваную маёмасць і парушэнне стандарту справядлівага абыходжання ў справе «Манолиум-Процессинг» супраць Беларусі».

Гэта першае рашэнне з удзелам Беларусі ў інвестыцыйным арбітражы, вынік якога з'явіўся ў публічным доступе.

У 2017 годзе расійская кампанія ТАА «Манолиум-Процессинг» ініцыявала арбітражны разгляд супраць Беларусі на падставе дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Яна патрабавала кампенсаваць наўпроставую шкоду і страчаную выгаду на суму больш за 200 мільёнаў долараў (пасля ісцец зменшыў патрабаванні прыблізна да 176 мільёнаў долараў).

Сутнасць патрабаванняў зводзілася да таго, што ў 2003 годзе кампанія заключыла інвестыцыйную дамову з Мінскім гарвыканкамам на забудову зямельнага ўчастка ў цэнтры сталіцы. У якасці платы за атрыманне такога права да сярэдзіны 2011 года расіянам трэба было ўзвесці некалькі камунальных аб'ектаў.

Аднак, як тлумачыла сітуацыю Міністэрства эканомікі Беларусі, шматлікія парушэнні з боку ТАА «Манолиум-Процессинг», выкліканыя *«нядбайным стаўленнем да нацыянальнага заканадаўства»*, прывялі да таго, што інвестар страціў ранейшае права на будаўніцтва.

У 2014 годзе Эканамічны суд Мінска вынес рашэнне скасаваць інвестыцыйную дамову. Спрэчкі бакоў доўжыліся яшчэ працяглы час, хоць зямельны ўчастак ужо перадалі іншаму забудоўшчыку. Паводле сцвярджэння расійскага боку, камунальныя аб'екты былі ўзведзены, а дзяржорганы адмовіліся выплаціць кампенсацыю выдаткаў.

Сёлета ў чэрвені склад арбітражу, створаны для разгляду гэтай справы, прызнаў у адпаведнасці з дамовай аб Еўразійскім эканамічным саюзе толькі заявы істца, звязаныя з рашэннямі беларускіх судоў пасля 2015 года і перадачай зямельнага ўчастка ў раёне плошчы Перамогі іншаму інвестару (цяпер тут група А-100 узводзіць жылы комплекс «Дэпо»).

Патрабаванне «Манолиум-Процессинг» пакрыць страчаную выгаду, звязаную са стратай права на зямельны ўчастак у цэнтры Мінска, склад арбітражу прызнаў беспадстаўным, а ў сумах патрабаванняў пагадзіўся з пазіцыяй Рэспублікі Беларусь.

Эканамічнае ведамства ўдакладняе, што пэўныя пазіцыі беларускага права не дазвалялі дзяржаўным органам выплаціць ТАА «Манолиум-Процессинг» кампенсацыю за яго выдаткі на будаўніцтва камунальных аб'ектаў, паколькі беларуская даччыная кампанія *«пастаянна парушала ўнутранае заканадаўства і да 2016 года загразла ў падатковых абавязацельствах і штрафах».*

Склад арбітражу пастанавіў пакрыць істцу сродкі, выдаткаваныя на будаўніцтва камунальных аб'ектаў, у памеры, вызначаным кантрольна-рэвізійным упраўленнем Міністэрства фінансаў Беларусі: блізу 19 мільёнаў долараў, або 12% ад агульнай сумы першапачатковых патрабаванняў. Аднак лішніх грошай у бюджэце так і не знайшлося, пацярпелы бок не атрымаў нават гэтай сумы.

Не дачакаўшыся справядлівага разбіральніцтва, расійская кампанія падала іск у Міжнародны арбітражны трыбунал у Гаазе. Вердыкт – кампенсаваць укладзеныя выдаткі з улікам дадатковых расходаў на арганізацыю працэсу.

Паводле інфармацыі экспертаў, яшчэ як мінімум дзве эканамічныя справы супраць Беларусі разглядаюцца іншымі міжнароднымі трыбуналамі.

